# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№10 (269)
кастрычнік 2024

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”


## У НУМАРЫ:

### MALDZIS вяртае Трэці Статут ВКЛ

У межах працы па вяртанні беларускіх каштоўнасцяў ініцыятыва MALDZIS выкупіла Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года (Трэці Статут), надрукаваны ў Вільні ў 1693 годзе на польскай мове.

Старонка 3






# ЭМІГРАЦЫЯ ЯК НАКАНАВАННЕ

## УБАЧЫЛА СВЕТ ПЕРШАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ БЕЛАРУСКІХ ПОМНІКАЎ НА ЗАХАДЗЕ

“Кожны раз чалавецтва бліжэй да шчасця на вышыню нашых магіл”. Калісьці Уладзімір Караткевіч у п’есе “Кастусь Каліноўскі” ўклаў гэтыя афарыстычныя словы ў вусны галоўнага героя.

Ключавое слова тут – “нашых”: тых, хто прысвяціў сябе справе свабоды і Беларусі, хто беларус не толькі і не столькі паводле пашпарту. “Нашы” – першае, што прыходзіць у галаву, калі бярэш у рукі толькі што выдадзеную “Кнігу могілак”.

### Хто ў Беларусі “нашы” і хто “не нашы”

На працягу апошніх 200 гадоў з кожным чарговым наступам на Беларусь агрэсіўнай русіфікацыі беларусы мусілі ратавацца за мяжой, бо на радзіме для іх былі прызначаныя турма, канцлагер і смерць. Кожны чарговы рэжым эмацыйна абразліва называў іх ворагамі, злачынцамі, “бегльімі”. Для рэжыму яны былі падкрэслена “не нашымі”. Нашы, каму пашанцавала ўратавацца, апыналіся за мяжою.

Пры гэтым на радзіме забараняліся хоць якія міжчалавечыя кансалідацыйныя памкненні, якія і робяць насельніцтва нацыяй. Адбываецца атамізацыя грамадства, калі ніхто нікому “не наш”. Парадаксальным чынам рэжымных асобаў у Беларусі аб’ядноўвае тое, што яны адзін аднаму “не нашы”.

Гэта яны ўсімі спосабамі выкараняюць нацыянальную, а насамрэч чалавечую эмпатыю, імкнуцца з Беларусі – краіны і нацыі – зрабіць нейкае падабенства ці то Саратаўскай вобласці РФ, ці то “ДНР”. І так – да прыходу новага “нябітага” пакалення, калі самім прыродным парадкам набывае моц успрыманне адно аднаго – наш, мы нашы, свае, тутэйшыя, беларусы. Мы разам – са сваімі продкамі і са сваімі дзецьмі, адно цэлае. Але ж ізноў чарговы наступ русіфікацыі выштурхоўвае гэтае наша праўдзівае народнае адзінства за мяжу.

Так сёння выглядае кожны чарговы ўдар русіфікацыі ў Беларусі – як праклён. І так выглядаюць хвалі масавае беларускае эміграцыі – як наканаванне.

### Праца за чвэрць стагоддзя

Дзе ў свеце больш памяці пра памерлых беларускіх дзеячоў: дома ці ў эміграцыі? Калі мець на ўвазе дакладны сэнс гэтых словаў – “беларускіх” і “дзеячоў” – гэта значыць тых, напрыклад, у каго на помніку зроблены надпіс па-беларуску, – адказ на маё пытанне не будзе выглядаць само сабой зразумелым. А задумаўся я пра гэта, бо і сам, як многія тысячы беларусаў, апынуўся сёння ў бестэрміновай эміграцыі.

На такія разважі навяла мяне адна з найбольш заўважных сёлетніх навінак на кніжным фестывалі “Прадмова” ў Вільні – салідная таміна пад назвай “Кніга могілак”. Вялікі фармат, 550 старонак, многія сотні чорна-белых і каляровых ілюстрацый…

Працу над гэтай энцыклапедыяй распачаў у Нью-Ёрку архівіст Лявон Юрэвіч 25 гадоў таму. Пазней да яго далучылася гісторык Наталля Гардзіенка, а выдаў кнігу беластоцкі “Камунікат”.

Усяго тут больш за паўтысячы помнікаў у 13 краінах свету: Аўстралія, Бельгія, Вялікабрытанія, Нямеччына, Грэцыя, Данія, ЗША, Італія, Канада, Францыя, Чэхія, Чылі і Швецыя. Не ўключаныя беларускія надмагіллі ў суседніх краінах. Як заўважаюць аўтары, тут помнікі складуць асобны том, і не адзін.

### Беларуская ідэнтычнасць і самабытнасць

Гэта тое, чым мы цікавыя і каштоўныя для свету і што сведчыць пра нас як пра асобную нацыю. На жаль, на радзіме зашмат робіцца для таго, каб беларусы менш думалі пра сваю нацыянальную адметнасць, сваё сапраўднае, а не карыкатурнае народнае адзінства.

Працяг на старонцы 2.

ЭСЭ

# ЭМІГРАЦЫЯ ЯК НАКАНАВАННЕ

Працяг са старонкі 1.

Разглядаючы здымкі беларускіх помнікаў у ЗША – у Саўт-Рывэры, Кліўлендзе, Іст-Брансвіку, дзе беларусы пахаваныя разам і асобна ад іншых, уяўляеш сабе якраз беларускую супольнасць на радзіме, якой яна будзе, калі не стане прыгнёту і запануе спрадвечны на нашай зямлі культ продкаў. На здымках – разняволеныя, пазнавальныя ўласна беларускія твары. Іх сотні. І прозвішчы: сотні "чыста беларускіх" прозвішчаў, канцэнтрацыю якіх у самой Беларусі ўжо наўрад ці сустрэнеш. На радзіме дамінуе расейская мова і ў вялікай колькасці расейскія прозвішчы – наступства паваеннай ужо русіфікацыі.

У адным Іст-Брансьвіку так шмат беларускіх помнікаў, колькі ў Беларусі можна пабачыць толькі на Усходніх могілках у Мінску і больш нідзе. А гэта толькі адзін адрас на Захадзе, і такіх адрасоў шмат.

Атрымліваецца, што этнографу ці раманісту, які ўзяўся б апісваць уласна беларускую супольнасць, трэба шукаць сваіх сугучных герояў за тысячы кіламетраў ад Беларусі, а не на радзіме.



Могілкі беларускай царквы ў гонар Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансьвіку, Нью-Джэрзі, ЗША

### Беларусы як качэўнікі

Адбываецца выразнае разбурэнне пераемнасці пакаленняў беларускай нацыі – народу, які жыве на адным месцы тысячу гадоў, а можна падумаць, што гэта нейкія качэўнікі, якія ніколі не мелі свайго прыстанку, сваёй краіны і дзяржавы.

У 1997 годзе мяне паклікаў да сябе светлай памяці Міхась Раманюк, выбітны мастацтвазнаўца і этнограф. Яшчэ не стары, ён быў змучаны падступнай хваробай, ведаў, што засталося яму няшмат, і перадаў мне матэрыялы для альбома "Беларускія народныя крыжы", якія збіраў ці не ўсё сваё свядомае жыццё, а давесці да публікацыі ўжо не мог. У 2000-м у выдавецтве "Наша Ніва" мы выдалі гэты грунтоўны альбом – унікальную навуковую, краязнаўчую і мастацкую працу, дзе тэма беларускіх пахаванняў і абрадаў была ўпершыню сістэматызаваная і дэталёва апісаная на ўсёй тэрыторыі Беларусі за стагоддзі.

І вось цяпер я бачу духоўны працяг той працы на матэрыяле фактычна апошніх 80 гадоў. Абрады, дэталі, дух калекцыі Раманюка прысутнічае ў беларускіх пахаваннях за мяжой і амаль не адчуваецца на радзіме. Адсюль непазбежнае пытанне: чаму гэты беларускі некропаль не мае месца на радзіме, а раскіданы па ўсім свеце? Чаго мы насамрэч не ведаем пра наша мінулае і не маем шанцу даведацца з афіцыйных інтэрпрэтацыяў айчыннай гісторыі?

### Злом нацыянальнага лёсу

У кнізе – сотні ўнікальных і пакручастых жыццяпісаў нашых землякоў. Ніколі не простая эміграцыя, абавязковыя прыгоды, поспехі, расчараванні.

Многія з іх паспелі зведаць сталінскія рэпрэсіі: Сібір, допыты ў НКВД, здзек са сваякоў, адбіранне маёмасці, што робіць іх лёс падобным да лёсу сённяшніх эмігрантаў.

"Масавая беларуская эміграцыя ў Аўстралію адбывалася пераважна на пачатку 1950-х гг. – распавядаюць аўтары. – Тады з паваеннай Нямеччыны і Аўстрыі ў далёкую паўднёвую краіну прыбылі каля 10 тысяч беларусаў, якія стварылі свае найбуйнейшыя асяродкі ў Мельбурне, Сіднеі, Адэлаідзе і Перце".

Дзе ж адбываўся той разрыў з радзімай – чытаем у біяграмах эмігрантаў. Найчасцейшая фраза: у часе (або пасля) Другой сусветнай вайны "апынуўся ў Нямеччыне". Чаму? Масавых прычынаў дзве: або быў вывезены немцамі на працу, або ўдзельнічаў у беларускім жыцці і руху пад нямецкай акупацыяй.

Аўтары часта не ўдакладняюць, якім чынам чалавек "апынуўся ў Нямеччыне". Тлумачаць гэта тым, што пошук такіх звестак асабліва складаны і не заўсёды паспяховы, асабліва што да шараговых беларусаў, якія не былі выбітнымі грамадскімі дзеячамі ці творцамі культуры. Можам толькі здагадвацца, бо ведаем, што ніякага навуковага і аб'ектыўнага даследавання, а пагатоў следства ў гэтай справе за 80 гадоў не праводзілася. Чаму? Бо савецкая прапаганда апрыёры лічыла ворагамі ўсіх, хто быў вымушаны жыць пад нямецкай акупацыяй, а пагатоў тых, хто з"ехаў за мяжу. Як сёння.

Варта выразна ўсведамляць сабе, што нямецкі рэжым не ўяўляўся беларусам больш страшным за савецкі (расейскі). Масавыя забойствы і канцлагеры ўжо адбыліся ў Беларусі перад вайной. У ніяк не меншых маштабах. Адно што, у адрозненне ад сённяшняга рэжыму, немцы не праводзілі ў Беларусі русіфікацыі, ім не заміналі намаганні беларусаў захаваць сваю мову, школу і папуляцыю. Не замінала выхаванне моладзі ў нацыянальным духу і беларуская салідарнасць – народная самапомач.

Калі ўмоўна зрабіць праекцыю на сённяшні дзень, дык у Беларусі сёння забароненая ўсялякая нацыянальная актыўнасць, не з'яўляюцца па сутнасці беларускімі ані армія, ані ўвесь сілавы блок, караецца турмою кожная праява салідарнасці – тыя ж харчовыя перадачы палітзняволеным. Кажу гэта не для таго, каб абяліць немцаў – усякая акупацыя для беларусаў – гэта насланнё і праклён. Адно параўноўваю: калі ў нашай гісторыі бывала страшней.

Што да беларускага руху, які разгарнуўся пад немцамі і з іхнага дазволу, дык тут варта падумаць, а які ў захавальнікаў беларушчыны і нацыі быў выбар? І адказаць з сённяшняй перспектывы, што сёння і такога выбару няма, бо беларушчына пастаўленая па-за законам, апынулася ў турмах або эміграцыі, дзе толькі і можа цяпер працягваць сваю місію захавання нацыі.

Пазіцыя цяперашняй пракуратуры, якая засталася той самай са сталінскага часу: усе, хто жыў у Беларусі пад нямецкай акупацыяй і дбаў пра беларускія нацыянальныя інтарэсы – злачынцы. Такая інтэрпрэтацыя глушыць прэзумпцыю невінаватасці і замінае даследчыкам гісторыі паўнавартасна высвятліць, чаму той ці іншы чалавек "апынуўся ў Нямеччыне".

### Эмігранты: тыя і гэтыя

Досыць проста ўявіць сабе, як бы выглядала біяграма сённяшняга масавага эмігранта, які "апынуўся" ў Літве, Польшчы ці той жа Нямеччыне ці ЗША. Беларускі журналіст, грамадскі актывіст, музыка, мастак, айцішнік дый проста вальнадумец мусіў уцякаць ад рэпрэсій, пераследу і прымусу рэжыму Лукашэнкі толькі праз тое, што ўсведамляе сябе беларусам і хоча жыць не ў турме. Таму і апынуўся ў Нямеччыне, на яе вызваленай дэмакратычнымі краінамі заходняй палове.

"Сотні тысяч беларусаў апынуліся на тэрыторыі Нямеччыны напрыканцы Другой сусветнай вайны, – паведамляюць аўтары энцыклапедыі. – Аднак асноўная іх частка вярнулася на радзіму. Каля 100 тысяч тых, што не пажадалі вяртацца, у другой палове 1940-х жылі ў чаканні выезду на сталае жыхарства ў іншыя краіны пераважна ў лагерах для перамешчаных асоб".

Апынуўшыся далёка ад дому, гэтыя людзі заставаліся беларусамі і ўсяляк захоўвалі сваю ідэнтычнасць. Чаму, уласна, нам і цікавыя іх магілы. Многія мужчыны – удзельнікі беларускага скаўтынгу, а жанчыны – майстрыхі беларускай вышыўкі. Абавязкова ствараўся беларускі хор.

Архіепіскап БАПЦ Святаслаў Логін у сваёй прадмове да "Кнігі могілак" піша:

"Самая арганізаваная хваля эміграцыі – паваенная стварыла беларускія арганізацыі, цэрквы, друкаваныя выданні, а таксама – беларускія могілкі ў розных краінах свету… На помніках спачылым часта пісалі імёны па-беларуску (часам лацінкаю), дадаючы назоў роднае вёскі альбо месца з пазнакай краіны Беларусь".

Сённяшняя вялікая хваля беларускай эміграцыі адбываецца на нашых вачах і зноў, мроячы пра вяртанне ў Беларусь, мае ўсе шанцы застацца на чужыне, прысвяціць жыццё бацькаўшчыне і стаць дзесьці ў вольным свеце новым беларускім некропалем.

Вось якую таямніцу і якую праўду раскрывае для нас салідная таміна пад назвай "Кніга могілак". Калі сабраць усе ўвогуле беларускія помнікі за мяжой, помнікі беларускім дзеячам, у тым ліку ў суседніх краінах, іх будзе відавочна болей, чым на радзіме. Так выглядае адказ на пытанне, з якога я і пачаў гэты тэкст.

Сяргей Дубавец, svaboda.org

навіны

# MALDZIS ВЯРТАЕ ТРЭЦІ СТАТУТ ВКЛ

У межах працы па вяртанні беларускіх каштоўнасцяў ініцыятыва MALDZIS выкупіла Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года (Трэці Статут), надрукаваны ў Вільні ў 1693 годзе на польскай мове.



Статут ВКЛ 1588 года – самае важнае выданне, надрукаванае ў Вялікім Княстве Літоўскім за ўсе часы яго існавання, і адзін з самых дасканалых прававых дакументаў у тагачасным свеце.

Кажа **Павел Мацукевіч**, кіраўнік ініцыятывы MALDZIS:

“Трэці Статут ВКЛ – гэта помнік беларускай прававой культуры, у якім можна ўбачыць ідэю ўсталявання прававой дзяржавы і першы крок да яе. Статут абараняў незалежнасць ВКЛ і ў ім была рэалізаваная агульнапрынятая сёння ідэя падзелу ўлады на тры галіны: заканадаўчую, выканаўчую і судовую.

Статут дзейнічаў цягам больш як 250 гадоў, перажыў падзелы Рэчы Паспалітай і знікненне ВКЛ у выніку ўключэння беларускіх зямель у склад Расейскай імперыі. Для параўнання, найстарэйшая ў свеце Канстытуцыя ЗША толькі набліжаецца да свайго 240-гадовага ўзросту”.

Здабыты старадрук знойдзены ў антыкварнай краме ў Калішы (Польшча) і набыты на сродкі беларускіх ахвярадаўцаў: Сяргея Казлоўскага, Рамана Андрыянава, Філіпа Дайнэкі і Дар’і Сліж.

Найбліжэйшым часам Статут будзе выстаўляцца на адмысловых мерапрыемствах па-за Беларуссю, але праз некаторы час будзе перададзены ў першую меркаваную сталіцу ВКЛ – Наваградак, у мясцовы гісторыка-краязнаўчы музей, у якасці грамадскага падарунка.

Набыты Статут выйшаў у свет у друкарні Віленскай акадэміі езуітаў у 1693 годзе паводле рэдакцыі 1648 года. Выданне 1693 года маецца ў шэрагу буйных бібліятэк і музеяў свету, у тым ліку і ў Беларусі.

Арыгінальны Статут ВКЛ 1588 года быў напісаны на “рускай мове”, якая з усіх найбольш блізкая да сучаснай беларускай. Першы польскі пераклад з’явіўся праз чвэрць стагоддзя пасля прывілею польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта III Вазы, які 28 студзеня 1588 года і зацвердзіў Статут.



Кажа **Рыгор Астапеня**, апякун ініцыятывы MALDZIS:

“Статут ВКЛ быў узорам для іншых дзяржаў, у прыватнасці Расеі і Прусіі, якія выкарыстоўвалі яго пры распрацоўцы свайго права. Да распрацоўкі Статута прычыніліся славутыя беларускія дзяржаўныя дзеячы і дыпламаты Астафій Валовіч і Леў Сапега, якія складаюць гонар нацыі. Падобныя вяртанні, як набыццё Статута, паказваюць, што іх праца шануецца нашчадкамі і з’яўляецца істотным элементам сённяшняй ідэнтычнасці беларусаў”.

## Пра MALDZIS і магчымасці падтрымаць ініцыятыву

Ініцыятыва атрымала назву ў гонар Адама Мальдзіса, які шукаў і вяртаў з забыцця страчаныя беларускія каштоўнасці і імёны. MALDZIS працягвае гэтую справу і бачыць сваю місію ў аб’яднанні беларусаў вакол нацыянальнай ідэнтычнасці і ўмацаванні вобраза Беларусі як еўрапейскай нацыі.

Такія набыткі, як Трэці Статут ВКЛ, магчымы дзякуючы грамадскім ахвяраванням. Цяпер MALDZIS мае найбольшую патрэбу ў падтрымцы даследчай працы ў пошуку каштоўнасцяў, іх набыцці, ушанаванні памяці слынных беларусаў і беларусак ды вяртанні забытых імёнаў. Асабліва карыснымі для ініцыятывы з’яўляюцца штомесячныя ахвяраванні, нават малога памеру.

malldzis.world

навіны

# ЛЯЎРЭАТАМ ПРЭМІІ ІМЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА “ЗА СВАБОДУ ДУМКІ” СТАЎ ГУРТ “NAVIBAND”

Статуэтку музыкам “NaviBand” Ксеніі Жук і Арцёму Лук’яненку ўручыла нацыянальная лідарка Беларусі Святлана Ціханоўская. Сёлета Аляксандр Мілінкевіч адрадзіў прэмію “За свабоду думкі” пасля пяцігадовага перапынку.




Святлана Ціханоўская і музыкі “NaviBand” Ксенія Жук і Арцём Лук’яненка

Сёлета Аляксандр Мілінкевіч адрадзіў прэмію імя Васіля Быкава “За свабоду думкі”. 3 кастрычніка пасля пяцігадовага перапынку ганаровая цырымонія ўручэння прэміі прайшла ў Беларускім доме ў Варшаве.

### “Адраджаюцца сімвалы – гэта вельмі важна”

Урачыстую цырымонію правяла журналістка і паэтка Валярына Кустава.

Канцлер Вольнага беларускага ўніверсітэта Аляксандр Мілінкевіч падчас цырымоніі распавёў, што ў 2006 годзе ён атрымаў прэмію Еўрапарламента імя Андрэя Сахарава “За Свабоду думкі”. І вырашыў заснаваць такую ж нацыянальную прэмію ў Беларусі – “для тых, хто бескампрамісна адстойвае свабоду”.

“Адраджаюцца сімвалы – гэта вельмі важна. Ідзе паўзучая анексія нашай краіны. Ідзе знішчэнне Беларусі. Людзі кажуць: дзе зрухі, дзе перамены? Галоўнае – не згубіць дух, не згубіць сілу волі. Я вельмі рады, што прэмія адраджаецца. Мы мусім перамагчы!” – сказаў Аляксандр Мілінкевіч.

### “„NaviBand“ натхняе і вучыць вольна мысліць слухачоў усіх пакаленняў”

Старшыня Беларускай Рады культуры Сяргей Будкін абвясціў новых пераможцаў прэміі – гурт “NaviBand”. Сёлетніх пераможцаў абіралі ўсе мінулыя лаўрэаты прэміі.

“Гурт „NaviBand“ паўстаў 12 гадоў таму. Я ў першай рэцэнзіі на іх выступы пісаў, што „NaviBand“ маюць усе шанцы стаць ўвасабленнем сучаснай беларускай поп-музыкі. Але я памыліўся, бо за гэтыя 12 гадоў яны сталі значна шырэйшымі, і ў пэўны момант яны зрабілі выбар на карысць беларускай справы, сталі несці беларускае слова ў цэлы свет.

„NaviBand“ натхняе і вучыць вольна мысліць слухачоў усіх пакаленняў. Іх імёны будуць упісаныя залатымі літаркамі ў гісторыю беларускай культуры”, – сказаў Сяргей Будкін.

Лаўрэатаў Ксенію Жук і Арцёма Лук’яненку ўзнагародзіла дэмакратычная лідарка Беларусі Святлана Ціханоўская.

“У кожнага свой шлях да Беларусі. Але ў нас адна мэта. І калі ўсё беларускае ў краіне вынішчаецца на карысць „русского мира“, вельмі важна захаваць нацыянальную культуру. Адзін лаўрэат прэміі „За свабоду думкі“ мастак Алесь Пушкін быў забіты ў турме. Два лаўрэаты – Павал Севярынец і Зміцер Дашкевіч – знаходзяцца за кратамі. Мы будзем рабіць усё дзеля іх вызвалення”, – сказала яна.

Святлана Ціханоўская падкрэсліла, што для яе гонар уручыць гэтую статуэтку музыкам Ксеніі Жук і Арцёму Лук’яненку.

Свой выступ Ціханоўская завяршыла словамі Васіля Быкава: “Беларусь жыве і будзе жыць. Мы зробім усё дзеля гэтага!”

Напрыканцы лаўрэаты зладзілі невялікі канцэрт для гасцей цырымоніі.




Сяргей Будкін

### Пра прэмію

Прэмія “За свабоду думкі” імя Васіля Быкава была заснаваная ў 2008 годзе Рухам “За Свабоду” і Аляксандрам Мілінкевічам. Урачыстая цырымонія яе ўручэння звычайна адбывалася на радзіме народнага пісьменніка Васіля Быкава ў вёсцы Бычкі на Ушаччыне.

Першую прэмію ў 2008 годзе атрымалі пісьменнікі Рыгор Барадулін і Уладзімір Арлоў, а таксама палітык Павал Севярынец. Апошнюю прэмію ў 2018 годзе атрымаў журналіст Глеб Лабадзенка. Цягам 2019-2023 гадоў прэмію не ўручалі.

У розныя гады лаўрэатамі прэміі імя Васіля Быкава “За свабоду думкі” станавіліся:

- паэты і пісьменнікі: Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Уладзімір Арлоў, Уладзімір Някляеў;
- літаратары і грамадскія дзеячы: Павал Севярынец, Зміцер Дашкевіч;
- мастакі: Алесь Пушкін, Алесь Марачкін;
- краязнаўцы: Ада Райчонак, Алесь Белакоз;
- музыкі і выканаўцы: Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч, бард і актор Віктар Шалкевіч;
- рэжысёр: Валер Мазынскі;
- журналіст: Глеб Лабадзенка.

svaboda.org

навіны

# СВЯТЛАНА ЦІХАНОЎСКАЯ АТРЫМАЛА ПРЭСТЫЖНУЮ ЎЗНАГАРОДУ SCHWARZKOPF EUROPE AWARD

Гэта ўзнагарода ўручаецца асобам і арганізацыям, якія "зрабілі значны ўнёсак у абарону міру, свабоды і адзінства ў Еўропе".




Узнагарода адзначае адданасць Святланы Ціханоўскай барацьбе за дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі, а таксама яе намаганні ў аб'яднанні міжнароднай супольнасці ў падтрымку беларускай грамадзянскай супольнасці.

Падчас цырымоніі Ціханоўская падкрэсліла, што гэта ўзнагарода беларусам, якія змагаюцца за дэмакратычную і еўрапейскую будучыню, а таксама беларускім палітвязням, якія плацяць за свабоду вялікую цану.

У цырымоніі бралі ўдзел Рым Алабалі-Радаван, дзяржаўны сакратар Нямеччыны ў справах міграцыі, нямецкія палітыкі, дэпутаты, амбасадары еўрапейскіх дзяржаў.

Узнагароду ўручаюць з 2003 году. Яе першым лаўрэатам была швейцарская юрыстка і галоўная абвінаваўца ў Міжнародным трыбунале ў справах былой Югаславіі Карля дэль Понтэ.

Ціханоўская не першая беларуска, якая атрымала гэтую прэмію. У 2007-м за публікацыю шэрагу артыкулаў і нарысаў пра еўрапейскую будучыню Беларусі цаной небяспекі ўласнай свабодзе прэмію далі Алесю Лагвінцу. На наступны год прэмію прызначылі фінскаму палітыку Аляксандру Стубу, а яшчэ праз год тагачаснаму кіраўніку Еўракамісіі Жану-Клоду Юнкеру.

У 2021 годзе лаўрэаткай стала прэзідэнтка Славаччыны Зузана Чапутава, узнагароджаная за змаганне з крымiналам і падтрымку меншасцяў. У 2022-м – украінскі паэт Сяргей Жадан за ўнёсак у развіццё грамадзянскай супольнасці ў сваёй дзяржаве.

**svaboda.org**

# МАРЫНА ЗОЛАТАВА СТАЛА ЛАЎРЭАТАМ ПРЭМІІ ІЯГАНА-ФІЛІПА ПАЛЬМА

Беларуская журналістка атрымала прэмію як "асоба незвычайна смелая і шчырая". Кандыдатуру былой галоўнай рэдактаркі партала TUT.BY вылучыла арганізацыя "Рэпарцёры без межаў". Цырымонія ўручэння прэміі пройдзе ў снежні 2024 года ў нямецкім горадзе Шорндарф.



Прэмія Іагана-Філіпа Пальма прысуджаецца асобам ці арганізацыям, якія "падаюць выбітны прыклад прыхільнасці справе рэалізацыі свабоды выказвання меркаванняў і свабоды прэсы". Яна прысуджаецца двум фізічным асобам ці арганізацыям. Агульны прызавы фонд – 20 тысяч еўра, якія пароўну дзеляцца паміж лаўрэатамі. Прэмія ўручаецца кожны цотны год у першую нядзелю снежня ў Шорндарфе.

Сёлета разам з Марынай Золатавай лаўрэатам прэміі стала навіновы сайт пра правы чалавека ў Афганістане "ZanTimes".

"Перад тварам велізарных перашкод і рэпрэсіўных мер з боку дзяржаўнага апарату Марына Золатава праявіла сябе як асоба незвычайна смелая і шчырая", – заяўляюць "Рэпарцёры без межаў" і апякунская рада фонда Palm.

У лістападзе 2023 года Марына Золатава была намінаваная таксама на прэстыжную прэмію "Рэпарцёраў без межаў" за свабоду прэсы ў намінацыі "Мужнасць".

### Справа Марыны Золатавай

Галоўная рэдактарка TUT.BY Марына Золатава затрыманая 18 траўня 2021 года. Яна асуджаная на 12 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах агульнага рэжыму па двух артыкулах КК: заклікі да дзеянняў, скіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь (частка 3 артыкула 361 КК) і распальванне варожасці ці варожнечы (частка 3 артыкула 130).

18 жніўня 2023 года МУС унёс палітзняволеную ў "Пералік грамадзян Беларусі, замежных грамадзян або асоб без грамадзянства, якія маюць дачыненне да экстрэмісцкай дзейнасці".

Адбывае тэрмін у ПК № 4.

**Георгій Леўкавец, baj.media**

**навіны**

# ЯК БЕЛАРУСЫ ЗДЫМАЮЦЬ ФІЛЬМЫ ЗА МІНІМАЛЬНЫЯ ГРОШЫ І БЕЗ ПАДТРЫМКІ ДЗЯРЖАВЫ

У нямецкай вёсцы Трэбніц прайшоў Другі з'езд беларускіх незалежных кінематаграфістаў. Там прэзентавалі вынікі першага Інкубатара мікрабюджэтнага кіно. Гэта творчая майстэрня, якая дапамагае беларускім рэжысёрам здымаць поўнаметражныя фільмы з мінімальнымі фінансавымі выдаткамі.



Першы з'езд беларускіх кінематаграфістаў у Берліне у 2023 годзе

Стваральнікам праекта ўжо ёсць чым ганарыцца – фіналісты першага конкурсу зрабілі два фільмы, а ўдзельнікі другога ўжо рыхтуюцца да здымак.

Як працуе інкубатар і якія фільмы з яго дапамогай здымаюць беларускія рэжысёры?

### "У тактычным сэнсе гэта эфектыўны метад"

Адсутнасць грошай – сталая і пакуль што невырашальная праблема беларускага кіно. Улада праз Мінкульт кантралюе працэс фінансавання кінавытворчасці. Усе дзяржаўныя грошы перадаюць "Беларусьфільму" ці прыватным студыям, якія гатовы ствараць на замову патрэбны дзяржаве ідэалагічны прадукт.

Усе, хто не згодны працаваць па такіх правілах, ужо тры дзесяцігоддзі застаюцца па-за межамі творчага працэсу і вымушаныя самастойна шукаць магчымасці для самарэалізацыі.

Стваральнікі арганізацыі BFN (Беларускай сеткі фільммейкераў) прапанавалі радыкальнае вырашэнне праблемы, арганізаваўшы летась Інкубатар мікрабюджэтнага кіно.

Яго мэта ў тым, каб здымаць дэбютныя поўнаметражныя аўтарскія стужкі за самыя сціплыя грошы – дзве з паловай тысячы долараў.

Узначаліў майстэрню пісьменнік і рэжысёр Уладзімір Казлоў, які ў Расіі і Беларусі такім чынам зняў дзесяць ігравых і дакументальных стужак.

"Калі да 2020 года былі спадзевы, што дзяржава пойдзе насустрач незалежным кінематаграфістам і пачне размяркоўваць грошы на стварэнне кіно, то цяпер яны цалкам зніклі. Мы паўсталі перад пытаннем – зноў чакаць акна магчымасцяў ці прыняць сённяшнія складаныя ўмовы і пачаць у іх працаваць. Мы абралі апошняе", – казаў Казлоў падчас прэзентацыі.

На ініцыятыву Інкубатара актыўна адгукнулася больш за трыццаць аўтараў, даслаўшы ідэі і сцэнары будучых стужак. З іх замежныя і беларускія эксперты спачатку адабралі шорт-ліст з 10 праектаў, а потым двух фіналістаў. Яны атрымалі па 2,5 тысячы долараў на здымкі ад нямецкіх фундатараў і ментарскую падтрымку з боку BFN.

Пры гэтым далёка не ўся кінасупольнасць пагадзілася з такім своеасаблівым творчым падыходам.

На думку часткі кінематаграфістаў, мікрабюджэтны падыход размывае працу вялікай колькасці спецыялістаў, вымушаных дзейнічаць на паліве энтузіязму, які хутка знікае. А таксама наўмысна ці не дэмпінгуе, прымушаючы астатніх аўтараў пад уплывам канкурэнцыі скарачаць бюджэт уласных праектаў.

З гэтымі хібамі пагаджаецца прадзюсар і сустваральнік BFN Леанід Каліценя, але дадае, што не бачыць іншага выйсця.

"Мы стала засяроджваемся на грашовым пытанні, забываючы пра сацыяльны рэсурс. Шмат спецыялістаў – аператараў, сцэнарыстаў, гукарэжысёраў, асвятляльнікаў – хочуць паспрабаваць свае сілы ў кіно, але не ведаюць як гэта зрабіць. Таму варыянт мікрабюджэту дае магчымасць напрацаваць сабе партфоліа, упісацца ў праект, які можа атрымаць фестывальную гісторыю. Так, стратэгічна тут няма куды расці, але ў тактычным сэнсе гэта эфектыўны метад. Гэта даказвае другі набор на Інкубатар, куды падалі не меншую колькасць цікавых праектаў, чым у першы раз. Мы будзем і далей развіваць і ўдасканальваць гэты напрамак".

### "Раны і ўпрыгожванні" і "Лебядзіная песня Фёдара Озерава"

Зараз у распрацоўцы Інкубатара знаходзяцца стужкі "Лебядзіная песня Фёдара Озерава" і "Раны і ўпрыгожванні".

Першы праект у Варшаве зняў са сваёй камандай Юры Сямашка, пераможца шматлікіх незалежных беларускіх фестываляў і прэмій, сумяшчаючы ў сваіх працах ігравое кіно і элементы анімацыі.

Яго поўнаметражны праект таксама не стаў выключэннем. У трагікамічнай форме стужка распавядзе пра музыканта, які на фоне чутак пра пачатак трэцяй сусветнай вайны становіцца апантаны пошукамі швэдра, у якім, як ён лічыць, да яго прыходзіць натхненне.

"Лебядзіная песня" знаходзіцца на стадыі постпрадакшану: рыхтуецца колеракарэкцыя, гук, саўндтрэк.

На праект ужо звярнулі ўвагу замежныя кінавытворцы. Літоўскі прадзюсар бескаштоўна выдаткаваў на постпрадакшан тыдзень працы ў студыі і пагадзіўся дапамагчы ў прасоўванні адборшчыкам фестываляў. Таксама фільм адабралі ў секцыю "працы ў распрацоўцы" на фестывалі ў нямецкім горадзе Котбус, які спецыялізуецца на фільмах з постсавецкай прасторы.

Такім жа інтрыгоўным выглядае фэнтэзі "Раны і ўпрыгожванні" – фільм з элементамі магічнага рэалізму пра двух братоў, якія ператвараюць фізічныя калецтва ў сапраўдныя ўпрыгожванні.

Пра аўтараў і здымачную каманду пакуль немагчыма нічога распавесці публічна, паколькі яны жывуць у Беларусі, дзе, дарэчы, і здымаўся праект.

Як і "Лебядзіная песня", "Раны і ўпрыгожванні" знаходзіцца на стадыі постпрадакшану: рыхтуецца яго гукавы і музычны мантаж, праводзіцца каларызацыя працоўных матэрыялаў.

Прадстаўнікі Інкубатара не кажуць, калі фільмы трапяць на экран. Але можна дапусціць, што гэта дакладна адбудзецца ў наступным годзе.

euroradio.pl

# ВЫНІК ФЕСТЫВАЛЮ Ў ОСЛА – КНІГА ГАПЕЕВАЙ ПА-НАРВЕЖСКУ

По выніках Міжнароднага паэтычнага фестывалю ў Осла (Oslo Internasjonale Poesifestival), дзе сярод дзясятка гасцей былі беларускія літаратаркі, з'явілася кніга вершаў Вольгі Гапеевай у перакладзе на нарвежскую і ангельскую мовы.

Пераклад на нарвежскую здзейсніла паэтка і перакладчыца Марына Хобель (Marina Hobbel), на ангельскую – Эні Разэрфорд (Annie Rutherford) і Кім Мур (Kim Moore).

"Дзякуй табе, дарагая нарвежская мова, што дазволіла мне плаваць у




тваіх хвалях. Такі цудоўны падарунак, што пасля фестывалю ёсць кніга. Вялікі дзякуй дарагая Марына, дарагая Эні і дарагая Кім за вашыя цудоўныя пераклады", – падзялілася паэтка навіной у інстаграме.

bellit.info

навіны

# БЕЛАРУСКІЯ ДЗЕЦІ Ў ПОЛЬШЧЫ СТВАРЫЛІ СЕРЫЮ МУЛЬТФІЛЬМАЎ ПРА ГІСТОРЫЮ БЕЛАРУСІ

Семінары па нейраілюстрацыі прайшлі ў сямі гарадах Польшчы для дзяцей беларускай дыяспары. Удзельнікі ва ўзросце ад 6 да 16 гадоў стварылі сотні ўнікальных ілюстрацый, якія сталі асновай для анімацыйных фільмаў пра Францыска Скарыну, Усяслава Чарадзея, Анастасію Слуцкую, Віцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Ігната Дамейку.




### Скарына – супергерой эпохі Адраджэння

Серыя пра Францыска Скарыну была эксперыментальнай. Тут дзеці не толькі стваралі ілюстрацыі, але і актыўна ўдзельнічалі ў распрацоўцы сцэнарыя. У выніку ў гісторыі пра першадрукара апавядаецца, напрыклад:

- пра кошт кніг;
- пра тое, як Францыск атрымаў дыплом, ніводнага дня не адвучыўшыся ў Балонскім універсітэце;
- пра тое, што веды – гэта не проста сіла, гэта СУПЕРСІЛА.

– Мы збіралі тэкст як пазл. У дзяцей былі карткі з фрагментамі біяграфіі Скарыны і яго значнымі дасягненнямі, і яны самі выбіралі, якую інфармацыю яны хацелі б уключыць у сцэнар. У выніку абмеркавання мы прыйшлі да фармулёўкі, што веды – гэта не проста сіла, гэта СУПЕРСІЛА. А вобраз Скарыны ператварыўся ў своеасаблівага "супергероя эпохі Адраджэння", – дзеліцца Аляксандра, кіраўніца праекта "Дзеці для дзяцей".

### Ілюстрацыі і анімацыя: погляд на гісторыю вачыма дзяцей

Калі візуалізацыі іншых гістарычных персанажаў, такіх як Усяслаў Чарадзей і Анастасія Слуцкая, выкананы ў класічным акварэльным стылі, то ўсе ілюстрацыі, створаныя для серыі пра Францыска Скарыну, вытрыманы ў яркіх фарбах коміксаў. Гэта было зроблена для таго, каб прадставіць гісторыю Беларусі ў фармаце, які будзе бліжэйшы і зразумелы юным удзельнікам.

– Мы далі дзецям выбар, каб яны маглі візуалізаваць гісторыю Беларусі ў той форме, якая ім зразумелая і цікавая. І, вывучаючы розныя мастацкія стылі ў нейраілюстраванні, дзеці галасавалі за тое, якім будзе мультфільм пра Скарыну.

Хтосьці быў за дыснэеўскі стыль і анімэ, але большасць удзельнікаў выказаліся за "comic style". Калі шчыра, мы не чакалі такіх вынікаў, – дадае Аляксандра.

### Партнёрства і далейшыя планы

Мультфільмы створаны ў межах праграмы "Васьміног: адукацыя для беларускіх дзяцей сёння і заўтра" пры ўдзеле фонду "Цэнтр грамадскага дыялогу".

У верасні мультфільмы былі прэзентаваны на розных пляцоўках і аўдыторыях. Гледачамі былі таксама дзеці з Украіны і Польшчы, а ўсе ўдзельнікі маглі паспрабаваць сябе ў ролі пачынаючага аніматара. У планах арганізатараў – мультфільмы пра агульную гісторыю, створаныя і расказаныя самімі дзецьмі.

Паглядзець ужо створаныя мультфільмы можна тут: YouTube-канал "Дзеці для дзяцей" (youtube.com/@дзеці_для_дзяцей).

budzma.org

# У БЕЛАСТОКУ ПРАЙШЛА БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ ЭКСКУРСІЯ ДЛЯ ВУЧНЯЎ ШКОЛЫ №4

Для вучняў беластоцкай школы №4, якія вывучаюць беларускую мову, у межах заняткаў па гісторыі і культуры нацменшасцяў, была праведзена вандроўка "Па слядах Браніцкіх".

Правёў яе вядомы акцёр і экскурсавод Васіль Калач:

– Я з задавальненнем праводжу такія экскурсіі, тым больш для дзяцей, для зацікаўленай моладзі. Беласток, яго пачатак эпохі Браніцкіх. Там насамрэч звязана з нашай гісторыяй, з нашай культурай, таму што ўладары Беластока фактычна да Стэфана Чарнецкага былі з літоўскіх зямель, сучасных беларускіх. Менавіта праз Беласток ездзілі на Сейм у Гародню.

Дзеці сустрэлі мяне даволі весела, іх уразіла тое, што я быў у шляхецкім строі, а хлопчыкі звярнулі ўвагу перш за ўсё на шаблю.

У беларускамоўнай экскурсіі па гістарычным Беластоку прынялі ўдзел вучні 5 і 6 класаў беластоцкай школы №4. Гэта дзеці, якія прадстаўляюць беларускую этнічную меншасць. Далей запланаваны тэатралізаваныя сустрэчы па гісторыі паўстання 1863 года.



racyja.com




навіны

# ПРАВААБАРОНЦА ЛЕАНІД СУДАЛЕНКА Ў ІТАЛІІ РАСПАВЯДАЕ ПРА ПЕРАСЛЕД АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА І РЭПРЭСІІ Ў БЕЛАРУСІ

Публічная дыскусія прайшла ў Падуанскім універсітэце, у якім калісьці вучыўся беларускі асветнік Францыск Скарына.

Дэвіз гэтай старэйшай навучальнай установы Еўропы амаль ужо 800 год гучыць так: “Свабода Падуі, усеагульная і для ўсіх”, – адзначыў на сваёй старонцы ў Facebook Судаленка.

Леанід Судаленка:

– Я казаў, што менавіта за Свабоду, усеагульную і для ўсіх, беларускі лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру кінуты за краты на 10 год! І правёў гістарычныя паралелі, як менш за 100 гадоў таму ў турме нацысцкай Германіі да смерці замучылі першага еўрапейскага лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру Карла фон Асецкага”.

Паводле гомельскага праваабаронцы, “сёння гісторыя паўтараецца – беларускі лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру ўжо чацвёрты год у турме, дзе марудна губляе здароўе”.

Аналагічныя дыскусіі з удзелам праваабаронцы прайшлі ці адбудуцца ў іншых гарадах Італіі. Арганізуюць іх італьянская Amnesty International, падтрымлівае суполка беларусаў у Італіі Associazione Bielorussi in Italia Supolka.

homeldays.org

# ОФІС ЦІХАНОЎСКАЙ СКЛАЎ СПІС КРАІН, БЯСПЕЧНЫХ ДЛЯ ПАДАРОЖЖАЎ БЕЛАРУСКІХ АКТЫВІСТАЎ

Офіс Святланы Ціханоўскай сумесна з народнымі пасольствамі Беларусі падрыхтавалі раздзел аб бяспечных падарожжах на сайце pashpart.org.

“Прааналізавана больш за 170 краін і тэрыторый – і дадалі інфармацыю аб тым, дзе бяспечна знаходзіцца беларусам”, – заявілі аўтары праекта.

Гаворка пра краіны з мінімальнай рызыкай затрымання пасля абвяшчэння ў вышук беларускімі ўладамі.

Краіны і тэрыторыі згрупаваныя па кантынентах.

Краіны пазначаюцца трыма колерамі. Зялёная – бяспечная краіна. Чырвоным пазначаецца краіна, праз якую небяспечны нават транзіт.

nashaniva.com

## Беларускі каляндар памятных дат на лістапад 2024 года

**1 лістапада**
• 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Іван Касяк, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне. Памёр у 1989-м.

**2 лістапада**
• 155 гадоў таму, у 1869-м, нарадзіўся Язэп Стаброўскі, археолаг, краязнавец. Памёр у 1968-м.
• 65 гадоў таму, у 1959-м, памёр Аляксандр Орса, доктар прыродазнаўства, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**4 лістапада**
• 230 гадоў таму, у 1794-м, загінуў Якуб Ясінскі, інжынер, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г.
• 95 гадоў таму, у 1929-м, нарадзіўся Сяргей Карніловіч, рэлігійны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**6 лістапада**
• 75 гадоў таму, у 1949-м, нарадзіўся Аляксей Філіпчанка, следчы, праваабаронца. Загінуў у выніку самаспалення ў 1998-м.

**8 лістапада**
• 240 гадоў таму, у 1784-м, нарадзіўся Тодар Нарбут, гісторык. Памёр у 1864-м.

**10 лістапада**
• 275 гадоў таму, у 1749-м, нарадзіўся Мацей Радзівіл, драматург, кампазітар. Памёр у 1800-м.

**13 лістапада**
• 35 гадоў таму, у 1989-м, памёр Фёдар Янкоўскі, мовазнавец.

**14 лістапада**
• 85 гадоў таму, у 1939-м, Заходняя Беларусь афіцыйна ўключана ў склад БССР.

**16 лістапада**
• 110 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Язэп Семяжон (Семяжонаў), літаратар. Памёр у 1990-м.

**19 лістапада**
• 20 гадоў таму, у 2004-м, памерла Юзэфа Найдзюк (дзяв. Брэчка), дзяячка эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**22 лістапада**
• 80 гадоў таму, у 1944-м, памёр Кузьма Чорны (сапр. Раманоўскі Мікалай), пісьменнік.

**25 лістапада**
• 310 гадоў таму, у 1714-м, нарадзіўся Тамаш Жаброўскі, архітэктар, астраном, матэматык. Памёр у 1758-м.

**26 лістапада**
• 160 гадоў таму, у 1864-м, памёр Тодар Нарбут, гісторык.
• 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзілася Яніна Каханоўская, дзяячка эміграцыі ў ЗША. Памерла ў 2005-м.

**30 лістапада**
• 125 гадоў таму, у 1899-м, нарадзіўся Міхась Лынькоў, пісьменнік, літаратуразнавец. Памёр у 1975-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 10 (269), кастрычнік 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com